Цана нумэру 50 кап.

# БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА

ШТОДЗЕННАЯ ГАЗЭТА.

Рэдакцыя Вострa-Брамская, № 9 — адчынена што дня, апрача сьвята, 10—3 гадз.

Адміністрацыя: Завальная № 7, «Белар. Кнігарня».

Год I. Вільня, Нядзеля, 27 ліпня 1919 г. № 56.





## АПОШНІЯ НАВІНЫ.

### Весткі Польскага Генэральнага Штабу.

*Ад 23 ліпня.*

**Літоўска-Беларускі фронт.**

Атакі непрыяцеля ў кірунку Бакшты-Баровы і на вучастку Валоцкі адбіты контратакай. Апрача таго на ўсім бальшавіцкім фронце крэпкая дзеяльнасьць артылеры, а так сама партый разведчыкаў. Бальшавікі ўсё павялічываюць свае сілы.

**Галескі фронт.**

Бе перамены.

**Галцыйска - Валынскі фронт.**

Без еремены. Шмат украінскіх салдатаў перходзяць Збруч на нашу старану і аддаюца ў палон.

### Весткі Гаунаго Даводцтва.

*Ад 22 ліпня.*

**Паўночньфронт.**

Учора нарiцы нямецкая артылерыя абстрэліва Роева і Залехлін. У начы агонь мінамтаў на Бэмблін. У начы з 20 на 21 г. м. закідаў непрыяцель мінамі Радвонкі. На куяўскім вучастку дужая дзеяльнасьць нямецкіх патрулёў.

**Заходній фронт.**

Апрача сільнай страляніны і слабага агня мінамётаў ў ваколіцы Зэмбуўка без перамены.

**Паўднёвы фронт.**

Пад Астроямі нямецкая артылерыя абстрэлівала перадполе нашых пазыцыяў. Каля Гранoўца і Змысьлёнон Лігоцкон прычэпкі нямецкіх патрулёў.

**Злучэньне польскай чугункі з нямецкай.**

ПАРЫЖ. Англійская місія выехала ў Бжезіны для перагавораў па пытаньню аднаўленьня руху чугункі між Польшчай і Нямеччынай. Пакуль што гутарка ідзе аб таварным руху. У Кшыжэ адбылася канфэрэнцыя ўсіх дырэкцыяў чугункі. Апрацовываўся плян адкрыцьця ўсіх зялезнадарожных лініяў. (П.А.Т.).

**Энвэр асуджаны на сьмерць.**

КОНСТАНТЫНОПАЛЬ, 8 ліпня. Ваенны суд вынес пастанову ў справе главных сябраў апошняй сувязі «Зъеднаньне» і падаў гэту пастанову ў найвысшую санкцыю. Талаат, Энвэр і Демаль, якія шукаючы ратунку хацелі ўцячы, прысуджаны на сьмерць; экс-Шэйх-уль-Іслам, Муса Кязім, Давід-Бэй, экс-міністр фінансаў асуджаны на 15 гадоў цяжкіх работаў. Ріфаат-бэй, экс-прэзыдэнт Сэнату і Нахім-бэй, экс міністр почтаў і тэлеграфаў апраўданы. Суд над чыноўнікамі абвінавачанымі ў пагромах і забойствах армянаў у Трапезундзе сягоньня ізноў пачаўся.

**З Бэрлінскай біржы.**

НАУЕН, 24 ліпня. Тыднёвы адчот бэрлінскай біржы. Праэкт уставу абвешчанага ў пачатку тыдня ў справе абавязкавага адданя часьці маемасьці на патрэбы дзержавы зрабіў значны ўплыў на бэрлінскай біржы. Паміма ўсялякіх закідаў трэба прызнаць, што урад спрыяючы цяжкае палажэньне нямецкай прамысловасьці пакідае часьць даходаў ў золаце, каб падняць развіцьце прамысловасьці. (П.А.Т.).

**Інтэрнацыянальная сацыалістычная канвэнцыя ў Амстэрдаме.**

ЛЕНДАН. 28 ліпня г. г. адбудзецца ў Амстэрдаме інтэрнацыянальная сацыалістычная канфэрэнцыя пры ўчасьці нямецкіх і аўстрыйскіх дэлегатаў. Канфэрэнцыя абсудзіць агульнае палажэньне інтэрнацыянальнага руху ў сувязі з падпісаньнем мірнай ўмовы і апрацуе ўсе падгатоўчые работы для інтэрнацыянальнага сацыалістычнага кангрэсу, які мае быць у Жаневе ў студні 1920 году. Як пішуць кангрэс будзе старацца каб прапусьціць у Расею камісію на чале з Каўтскім, якую мелі пасласць на бэрнскай канфэрэнцыі. (Teims, 14 ліпня).

**Усесьветная забастоўка.**

АМСТЭРДАМ, 22 ліпня. Прэс - бюро пішэ, што інтэрнацыянальны хаўрус прэдстаўнікаў судаходзтва і мораплаваньня вядзе перагаворы з савецкай Расеяй, каб з 1 верасьня зрабіць агульную забастоўку ва ўсіх партах ўсяго сьвету.

